Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem


# БЮЛЕТЭНЬ

## Пасольск. Клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

№. 1. Вільня, Субота 11-га ліпня 1925 г. №. 1.


# ЗЯМЛЯ СЯЛЯНАМ.

**Прамова пасла Бр. Тарашкевіча ад імя Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, сказаная на паседжаньні Сойму 30-га чэрвеня 1925 г.**

Пасол Вітас у аднэй з сваіх гутарак з журналістамі сказаў,—памойму дасьціпна і слушна, — што соймавыя паседжаньні падобны да абедаў у нашым соймавым буфэце. Яны вельмі аднастайныя, не здаровыя і нудныя. Пры разглядзе гэткай важнай справы, як зямельная рэформа, сулілі вельмі вострую барацьбу з розных бакоў гэтае палаты. Але вось, ужо йдзе агульная дыскусія, і аказваецца, што гэтая дыскусія ў істоце сваей ня розьніцца ад звычайных паседжаньняў Сойму. Было, як заўсёды нудна, троху забавы і троху сьмеху. Было пуста і нудна ў салі, пуста і нудна на галёрцы. І няма нічога дзіўнага ў тым, што ўвесь Сойм, сталіца і цэлы край пераканаўся, што ў істоце тутака, у гэтай палаце, нічога запраўды новага ня можа стацца. Цэлы край зразумеў, што ў гэтай палаце адбываецца паміж нібы варожымі ўзаемна групамі фактычна гульня ў карты, гульня значанымі картамі, — адбываецца свайго роду comedia del arte. — Comedia del arte, уступіўшы мейсца драматычнаму мастацтву, са сцэны перайшла на парляманцкія трыбуны і ў працягу XIX сталецьця мела вялікія трыумфы і славілася зусім слушным пасьпехам. І вось, сёньня бачым, што гэты род парляманцкай творчасьці згубіў сваю жыцьцёвасьць, бо, каб гэтае мастацтва цікавіла публіку, яно мусіць заўсёды даваць штосьці новае, мусіць тварыць!..

А сёньня запраўды найчасьцей у парляманьце бывае камэдыя, а польскае грамадзянства бачыць ня ведаю каторы раз, як на гэтай соймавай сцэне іграюць камэдыю, назоў якой: „Зямельная рэформа".

Польскі Сойм ставіць гэтую рэч, як я сказаў, ня першы раз. І нічога дзіўнага, што зацікаўленьне гэтаю рэчай адпала, бо трэба прызнаць, што, калі цяперашняе прадстаўленьне зямельнае рэформы для чалавека са смакам хоць крыху разборчывым, зьяўляецца нудным і няцікавым, дык толькі таму, што ў 1919 і 1920 годзе гэтая самая рэч была разыграна ў Устаноўчым Сойме лішне геніяльна.

Іменна тады, калі польскі селянін на водгалас рэвалюцыі працягваў рукі на зямлю, якой ён прагне, ды якую яму абяцалі правадыры сацыялістычных угрупаваньняў і розных іншых, называючых сябе народнымі,—тады мы былі сьведкамі, як гэтыя правадыры з нячуванаю імправізуючай фантазіяй разыгралі на соймавай сцэне гэную камедыю з нябывалым пасьпехам. Цэлы край, увесь сялянскі люд быў загыпнатызаваны артыстычнымі жэстамі сваіх правадыроў і фразамі, падаўшымі з гэтае трыбуны. Абяцалі сялянам зрабіць рэвалюцыю без рэвалюцыі, зрабіць пераварот грамадзкіх адносінаў без усялякага праліцьця крыві, без усялякіх гвалтаў і ўсялякага пагвалчэньня так-званага „правапарадку", — адным словам, абяцалі зрабіць цуд. І таму польскі селянін ня толькі галасаваў і чакаў хуткага правядзеньня ў жыцьцё зямельнае рэформы, але больш таго: грудзьмі сваімі бараніў польскіх абшарнікаў і буржуазію ад рэвалюцыі. Бо, калі ў 1920 г. „Чырвоны Ганнібал" стаяў перад мурамі Варшавы, то на падмацаваньне жаўнерскіх сэрцаў разыгралі яшчэ раз на bis камэдыю аб зямельнай рэформе. Вайна канчаецца пабедаю, селянін чакае на зямлю, чакае год, чакае два, тры, чакае пяты год. Ажно ў канцы нецярплівіцца, пачынае бурыцца, забурэньне гэтае пачынае выяўляцца на паверхі зямлі, асабліва на Крэсах Усходніх. І вось, сёньня для заспакаеньня гэтага селяніна зьбіраецца Сойм зайграць ужо 5 ці 6 раз, калі лічыць усе зямельныя ўставы, зноў гэтую рэч.

Паважаныя Паны! Дзіўная гэта рэч,—але на перашкодзе зямельнай рэформе, як прызналі ўсе ўгрупаваньні, станула нішто іншае, як іменна ўстаў аб зямельнай рэформе!..

Ці-ж гэта не камэдыя? Гэта ёсьць такая камэдыя і так геніяльна зыграная, што толькі паны з гэтага боку (паказвае на правіцу) мусяць запляскаць у ладоні і сказаць брава, брава, партыі, што слухаецеся нашае каманды! Кажучы проста, **польская лявіца** ўратавала,—хоць дзіўным гэта здаецца, але фактычна гэтак было!—**уратавала маемасьць аб шарнікаў, і то ўся лявіца, пачынаючы ад пэпэсаў і канчаючы на Вітасе.** Ці гэта было сьведама, ці мо' нясьведама, ці гэта, можа, жыцьцёвая недазнанасьць некаторых партыяў з гэтага боку палаты (паказвае на лявіцу), ці гэта гульня зусім сьведамая, — у канцы канцоў гэта мае меншае значэньне, але фактычна гэтак ёсьць, і я ўжо ня буду казаць аб тым, што ўрад, які называўся народным, сам дабравольна аддаў уладу ў рукі абшарнікаў і буржуазіі. Я не гавару аб усіх пэрспэктывах рэвалюцыйнага разьвязаньня зямельнае справы.

Але, калі зьвярну ўвагу на тое, як праводзілася зямельная рэформа, дык акажацца, што фактычна гэты ўстаў выратаваў абшарніцкія маёнткі ня толькі ад адабраньня, але навет і ад распрадажы іх. Бо ў працягу гэтага часу з рук вялікіх уласьнікаў у рукі сярэдніх і малых уласьнікаў перайшло зямлі шмат менш, чым пераходзіла за такі-ж самы час перад вайною, і перайшло меней таму, што гэты ўстаў замацаваў стан уладаньня вялікае маемасьці і выратаваў яе ад распрадажы.

Дык дзіўным выдаецца, калі правіцца наракае на лявіцу. Фактычна, правіца мусіла-б падзякаваць і паставіць п. Вітасу і ўсім паном з пэпэс вялікі помнік удзячнасьці. (**П. Вітас**: Можа, яны гэтае і зробяць, бо гэта-ж удзячныя людзі!). Пан маеш надзею? Пан на гэта чакаеш? (**П. Вітас**: Я маю пэўнасьць).

Тым часам селянін пачынае нецярплівіцца ў краі і ўсё больш выразна кідаць пяруны ў сваіх правадыроў. Ужо чуваць голас гневу на ўсходніх землях. Паны кажаце, што да трох разоў штука. Дзеля баламучаньня селяніна, дзеля яго заспакаеньня, хоць і на кароткі час, патрэбна хоць фікцыя нібы зямельнае рэформы; ня ведаю, каторы раз паны хочаце вярнуцца да гэтае рэформы. Хоць гэты ўстаў фактычна зусім не зьяўляецца зямельнаю рэформаю, гэта ўстаў не аб надзяленьні селяніна зямлёю, але гэта ўстаў аб абаронным вале, які мае бараніць маемасьць абшарнікаў, аднак, бачу, што паны з гэтай палаты голасна ляментуюць і зусім нядвузначна разьдзіраюць шаты свае, быццам-то робіцца вялікая крыўда! Але мы бачым нешта іншае. Мы бачым, як я казаў, гульню ў карты, і, хаця лявіца абяцала вялікі адпор, вялікую барацьбу, вынік ігры наперад пастаноўлены: „зямельная рэформа" натуральна прайдзе. Калі ўзяць напр. партыю „Wyzwolenie", дык я пераканаты, што яна, убачыўшы, што частка правіцы будзе проціў уставу, будзе баяцца перашкодзіць правядзеньню ўставу і падсьць галасы за „зямельную рэформу". Калі-ж убачыць, што абшарнікі будуць за ўставам, дык, каб злавіць агітацыйныя атуты, яна будзе галасаваць проціў. Пабачыце паны, што гэтак будзе. (**Голас**: А пан пойдзеш за абшарнікамі?). Я пайду проціў гэтага баламуцтва.

Адносіны П.П.С. да зямельнае рэформы зусім выразныя: пры гэтай справе некаранаваны кароль парабкаў хоча сьпячы малую парабчанскую пячэню, а аб цэласьці сацыяльнага пытаньня, якім зьяўляецца зямельная рэформа, зусім ня дбае. І ведама, п. Квапіньскаму, як і п. Вітасу, таксама належыцца помнік удзячнасьці ад гэтага боку палаты (паказвае на правіцу). А рэзультатам усіх гэтых галасаваньняў, усіх гэтых гутарак будзе тое, што абшарнікам застануцца маёнткі, толькі ў вельмі малай меры абрэзаныя дарогаю прымусовага выкупу і крыху болей паабразаныя дарогаю дабравольнай спэкуляцыйнай прадажы. **І на гэтае, аказваецца, усе партыі згодны.**

Другім рэзультатам гэтага ўставу будзе тое, што павялічыцца лічба заможных, разбагацеўшых сялян — „кулакоў",—ня ведаю, як гэта папольску сказаць, няма адпаведнага слова, я-бы радзіў прыняць назоў „пястун",—будзе трохі гістарычна і трохі пясьціва гучэць. Значыць, толькі гэтая кляса павялічыцца, гэтая **падпора польскай** буржуазіі, апіраючыся на якую абшарнікі будуць гаспадараваць у краю, трымаючы большасьць краю ў ярме ў эксплёатуючай меншасьці. І на гэтае паны патэнтаваныя сацыялісты згодзяцца зусім, абы толькі „сьпячы маленькую парабчанскую пячэню".

Яшчэ адна рэч, якая фактычна зьяўляецца асновай усяго гэтага ўставу; гэта — справа калянізацыі. Гэты ўстаў слушна называецца ўставам аб асадніцтве і парцэляцыі. І дужа цікавыя тут адносіны да гэтае справы, асабліва левае паловы палаты. Бо **хто-ж быў ініцыятарам** усяе гэтае **калянізатарскае палітыкі? Перад усім польская лявіца.** Мусімо тут прыпомніць прагрымеўшы ўстаў 17-га сьнежня 1920 г. аб пераходзе да дзяржавы зямлі пад асаднікаў у некаторых паветах, іменна ў „Крэсавых" паветах і другі ўстаў — аб вайсковым асадніцтве. Іменна тады — гэта можна сьцьвярдзіць стэнаграмамі — **лявіца хвалілася,** што мае так глыбокае дзяржаўнае чуцьцё, **што была ініцыятарам усіх гэтых установаў.**

Прамовы з боку лявіцы ішлі далей з пагляду калянізацыйных парываў, чым прамовы з боку правіцы. Адзін з сымпатычнейшых навет дэпутатаў з партыі „Пяста", п. Старшыня Дэмбскі вельмі неасьцярожна выразіўся, што ён шчасьлівы, што цяпер гэткая іменна адпаведная часіна, каб забраць гэтыя „Крэсавыя" землі—беларускія і ўкраінскія,—што люднасьць ваеннымі апэрацыямі і вайною стуль выкінута (**П. Дэмбскі** перапыняе). Так, пан казаў, я лёяльна сьцьвярджаю. (**П. Дэмбскі**: Але зямля ляжала там адлогам!). Ясна, вельмі магчыма, што пан тады думаў, што люднасьць тая ня вернецца, і ўважаў гэта за вельмі шчасьлівы ўклад абставінаў. Але беларускі і ўкраінскі селянін, таксама, як і польскі, як і кожны іншы, гэтак прывязаны да сваей зямлі, што масава вярнуўся з выгнаньня, а не з дабравольнага выезду ў Расею, як пан Смольскі казаў,—вярнуўся на тую родную зямлю, дзе нічога не знайшоў, апрача заросшага поля. Упаў на гэтую зямлю, плакаў, пазурамі папросту дзёр гэту зямлю, абрабіў яе,—і сёньня гэты селянін—беларускі і ўкраінскі так глыбока запусьціў карэньні ў гэтую зямлю, што ніякая сіла, ніякія наскокі яго не адарвуць ад яе. (**П. Дэмбскі**: Яго зямлі не забралі асаднікі, хоць-бы і ляжала яна адлогам). Навет і яго зямлю забралі, бывалі выпадкі, мы складалі аб гэтым інтэрпэляцыі.

Здаецца, што вайсковае асадніцтва спаткалася з належнаю ацэнкаю мысьлячых людзей ня толькі з лявіцы, але і збоку правіцы, у кожным выпадку з ацэнкаю, што ня было яно выражэньнем глыбокай „дзяржаўнай думкі"—навет у тым значэньні, у якім паны яго разумеюць. А вось нядаўна адзін выдатны сябра партыі „Wyzwalenie", п. пасол Панятоўскі, выступіў у прэсе з сажнёвым артыкулам аб асадніцтве. (**П. Міхалян**: Некаранаваны кароль сялян!). І што-ж? Аказваецца, што той асаднік, які стаўся найвялікшай закалаю г. зв. „Крэсаў Усходніх", той асаднік, паводле думкі п. Панятоўскага, нясе там культуру, гэты асаднік, што ў большасьці выпадкаў свае зямлі сам не абрабляе, што ў большасьці выпадкаў займае „пасады" і дужа часта такія „пасады", як служба ў дэфэнзыве,—гэты асаднік, паводле думкі п. Панятоўскага, навязаў дасканальныя адносіны з мясцоваю люднасьцяй, і на гэтага асадніка п. Панятоўскі пакладае надзею, што ён здалее зблізіць „братнія" народы!.. Былі-бы вельмі здаволены, калі-б гэта была памылка, а не выражэньне тых, ні з чым нялічучыхся калянізацыйных і палянізацыйных парываньняў, якія адзін з другім заўсёды вяжуцца.

Нажаль, сёньня мусіма сказаць, што ў польскім Сойме і паза Соймам, апрача камуністычнае фракцыі, няма партыі, якая-б не гадзілася з калянізацыйнымі парываньнямі. (**П. Дэмбскі**: Напрыклад у Радавай Беларусі).—У Радавай Беларусі няма калянізацыі імпартованай звонку. (**П. Дэмбскі**: Прывозяць з глыбокай Расеі!). Запэўняю пана пасла, што пан мыліцца!.. У Радавай Беларусі навет ёсьць гэтак, што аказваецца, што там за-мала зямлі і што беларусы змушаны эміграваць;—гэта праўда. Змушаны з Беларусі эміграваць. Гэта аргумэнт вельмі важны—іменна **проціў** пана. Гэтыя калянізацыйныя парываньні, высоўваныя польскаю лявіцаю, апіраюцца на цьверджаньні, быццам на „Крэсах Усходніх", а спэцыяльна на беларускіх землях, знайходзяцца вялізарныя запасы зямлі. Вось, мы мусімо сказаць, што, калі чуем гэта ад людзей, якія зьяўляюцца правадырамі, прадстаўнікамі партыяў, то, скажам адкрыта, гэта ёсьць подлая дэмагогія. На беларускіх і ўкраінскіх землях няма гэтакага запасу зямлі, каб можна было раскалянізаваць прывезеную з этнаграфічнай Польшчы люднасьць.

Папярэдні міністар зямельных рэформаў нядаўна ў Зямельнай Камісіі даў точныя даныя, апрацаваныя ня намі, але Міністэрствам, — даў гэтыя даныя, як даныя сакрэтныя, якія сьцьвярджаюць, што, напрыклад, **зямельныя адносіны ў Наваградзкім ваяводзтве ня лепшыя, як у Варшаўскім ваяводзтве.** А, калі параўнаваць Варшаўскае ваяв. з Наваградзкім ваяв. пад іншымі паглядамі, напр. урадлівасьці зямлі, кліматычных розьніцаў, аддаленьня ад прамысловых цэнтраў, то акажацца, што Наваградзкае ваяв. знаходзіцца ў шмат горшых варунках, чым ваяв. Варшаўскае. Яшчэ іншыя факты кажуць зусім ясна, што гэнага багацьця зямлі дзеля збыту там зусім няма. Перад вайною беларускае насяленьне іменна з гэтых зямель масава эміґравала ў прамысловыя цэнтры—у Расею, у Амэрыку, ў Сыбір. Сёньня гэтыя дарогі эміграцыі зачынены, **і калі вы хочаце пакаваць сюды яшчэ людзей з іншае краіны, то мясцовай люднасьці застанецца толькі адно месца эміграваць: гэта — зялёны лес; гэта будзе адзіны вынік калянізацыйнае палітыкі.**

Калі чуем з гэтага боку, што вы ніколі не падзеліце нашага пагляду, што на беларускіх і ўкраінскіх землях ня можа быць пасаджаны польскі селянін, дык я скажу, што на беларускай зямлі, паводле нашага перакананьня, уся мясцовая люднасьць мусіць знайсьці зямлю на роўных правох, незалежна ад

# Прамова пасла Валошына

## на паседжаньні Сойму ў часе дыскусыяў аб зямельнай рэформе 6./VII.—1925 г.

Устава аб парцэляцыі і асадніцтве зьяўляецца з аднаго боку ўставаю, забесьпячаючаю інтарэсы абшарнікаў—пільна глядзіць, каб якому з іх ня сталася якаясьць крыўда, а з другога боку стараецца не дапусьціць да зямлі элемэнты, з якіх колек пагладаў нямілыя для буржуазіі.

Гэтай мэце служыць цэлы рад розных параграфаў. Для каплю дэлікатнейшых палітычнай дзеяльнасьці, для фарысэйстваваньня прыслугачоў уплывовых партыяў служаць перад усім параграфы аб фінансавай помачы для набываючых зямлю. Аб гэтым цяпер не гаворым.

Параграф, аб якім гаворым аб дзейнасьці простшай, больш безцэрамоннай. Буржуазія чуе патрэбу памсьціцца над усімі тымі, хто ёй напрыкрыў і з гэтаю мэтаю праводзіць трэці параграф, абгаворванай уставы.

Не даволі таго, што за зямлю трэба дорага заплаціць, каб—барані Божа—абшарнік ня быў пакрыўджаны, але само права набываньня зямлі зьяўляецца прывелеем, яго дужа лёгка можна пазбавіцца.

Калі справа тычыцца набыцьця буржуазных прадпрыемстваў, аб набыцьці абшарніцкіх маёнткаў, фабрыкаў, капальняў, банкаў, дык ніякія буржуазныя правы ня знаюць ніякіх агранічэньняў. Можна быць найгоршым, скуралупам, абманшчыкам, навет здраднікам розных патрыятычных сьвятасьцяў буржуазіі, — абы толькі мець даволі капіталу—і ўсё будзе даступна.

Калі-б хто ў гэтай галіне папробаваў увясьці якія агранічэньні, дык уся буржуазія падняла-б вялікі крык абурэньня й дамагалася б неагранічанай вольнасьці.

Калі-ж справа тычыцца таго, каб чалавек, цяжка працуючы, хацеў набыць кавалак зямлі,—значыцца варштат працы, дык стаўляюцца яму агранічэньні, вымагаюцца папросту пасьведчаньні „благонадежнасти", перад тым, каб даць яму магчымасьць набыць кавалак зямлі.

У абгаварваным артыкуле чытаем, што „ад набываньня зямлі з парцэляцыі будуць выключаны караныя за праступак проці Польскай Дзяржавы.

Перад усім ужо з пункту гледжаньня фармальнага сцьвердзіць трэба, што карны кадэкс ня ведае азначэньня „праступак проці Польскай Дзяржавы". Што гэта зьяўляецца праступкам проці дзяржавы?

Гэтакім праступкам можа быць удзел у палітычнай арганізацыі, якая можа не падабацца паліцыі, або прамова на вечу, або выстаўленьне сваей кандыдатуры, на якойсьць лісьце неправадумаючай; праступкам гэтакім можа быць сварка з урадоўцам, можа быць службовы праступак, напр. не падпарадкаваньне палітычнаму прыказаньню старшага і г. д.

Ведаем-жа, што ў Польшчы перапоўнены вастрогі „палітычнымі праступлікамі". Тысячы сялян і работнікаў закінулі ў вастрогі толькі за тое, што адважна і вытрывана змагаліся з крыўдаю, гвалтам і перамогаю буржуазна-абшарніцкаю. За „праступак проці Польскай Дзяржавы" буржуазія ўважае ўсялякае праяўленьне незалежнай думкі, усялякі адпор народнаму ўціску, усялякую барацьбу аб папраўленьні варункаў жыцьця працуючага народу.

Пераважна на г. зв. „Крэсах", фактычна на Беларускіх і ўкраінскіх землях, забраных польскімі імпэрыялістамі, правячая польская буржуазія пры помачы няведаючага граніц тэрору хоча задушыць усялякае праяўленьне вызваляючагася народнага і грамадзкага руху. Усё гэта ўважаецца за „праступак проціў Польскай Дзяржавы": адкрываньне і вядзеньне беларускіх і ўкраінскіх школаў, шырэньне асьветы пазашкольнай у матчынай мове, закладаньне каапэратываў, выдаваньне часопісаў пабеларуску ці ўкраінску, навет дамаганьне, каб у касьцёлах дадаткова маліліся (напр. пропаведзі і г. д.) у матчынай мове.

Параграф 3 ці 51 артыкулу багаслаўляе пануючую ў Польскай Дзяржаве сыстэму ўціску работнікаў сялян і ўцісьненых народаў і дае поле да нячуваных розных правінцыянальных „Kacyków". Абгаварваны параграф, які ўзалежнівае, што ад набываньня зямлі з парцэляцыі выключаны караныя за праступак проці Польскай Дзяржавы—не дае адказу на пытаньне — як караны? Бо-ж адміністрацыйная кара, напр.: штраф, наложаны паліцыяю — гэта-ж тож кара і чалавек, які заплаціў кару, зьяўляецца ўжо пакараным.

Ня сказана таксама, калі караны? Ці напр. нібы праступак проці Польскай Дзяржавы ў б. Усходняй Галіцыі тады, калі лёс яе яшчэ ня быў вырашаны, тож сюды належаць? А г. зв. праступкі, зробленыя на землях Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны перад Рыжскім мірам, ці тады, калі гэтыя землі з праўнага пагляду не належалі да Польшчы? А тыя, якія падпалі пад амністыю, якія частку кары адбылі, ці маюць права набываць зямлю?

Гэтакіх пытаньняў можна паставіць цэлы рад і ўсе яны даказваюць, што аўтары ўставы ўмысьне хацелі гэтак сфармуляваць гэты параграф, каб даць як найшырэйшае поле палітычнае самаволі. Пры помачы гэтага параграфу можна прычапіцца немаль да кожнага грамадзяніна, дае ён пераважна поле да адміністрацыйнае самаволі „kacyków i stupajek" на беларускіх і ўкраінскіх землях.

Бязьмерна характэрным зьяўляецца зьмест цяпер абгаворванага параграфу. Ад права на зямлю маюць быць выключаны тыя, што з пагвалчэньнем права бралі чужую зямлю ў валаданьне. Буржуазія заняцьце сваe зямлі ставіць на той самай роўні, што праступак проці Польскай Дзяржавы. Хто адважыўся сягнуць на нятыкальную, найсьвяцейшую абшарніцкую ўласнасьць, той на цэлае жыцьцё мае быць праклятым, таму няма зямлі.

У гэтым параграфе буржуазія выражае ўсю сваю шалёнасьць, свае жаданьне помсты над тымі, хто ў часе рэвалюцыі сялянскімі рукамі на ясна-панскую зямлю сягнуў.

За тое, што ты, селяніне, бяспраўна—г. зн. выкупіўшыся яснаму пану на яго, на ясна-панскую зямлю—ня будзеш мець ужо ніколі доступу да зямлі.

Буржуазія мела ня мала страху ў 1919 і 1920 г.г., цяпер мусіць за тое памсьціцца над табою.

Абгаворваны параграф дзеліць грамадзян Польскае Дзяржавы на такіх, што маюць права купіць зямлю і на такіх, што на ўсё жыцьцё пазбаўлены яго. Параграф гэты навет у найрэакцыйнейшых буржуазных дзяржавах мусіў-бы выдавацца ўродствам. У Польшчы аднакжа ўсё добрае, што ляжыць на лініі развыдранага абшарніцтва.

Характэрнаю рэчай зьяўляецца, што ані пэ-пэ-эс, ані Вызваленьне, партыі, хочучыя належаць да лявіцы і дэмакратыі, не ўкясьлі ў камісіі папраўкі аб вычыркненьні гэтага агіднага паліцэйскага параграфу. Нічога дзіўнага. Гэтыя партыі пераважна на ўкраінскіх і беларускіх землях ідуць разам са ўсею буржуазіяй, а ня раз навет апераджаюць яе ў справе палёнізацыі і калёнізацыі, у справе душэньня адраджаючага руху сялян і работнікаў як беларускіх, так і ўкраінскіх. Першыя гэтыя цягнуць ня злічаныя карысьці з пануючага паліцэйскага тэрору і таму гэтаму тэрору ані хочуць, ані могуць рабіць адпору.

Ад імя працуючых масаў Заходняй Беларусі ўношу, як мага, рашучы пратэст проці гэтага параграфу, які вострам сваім скіроўваецца ў грудзі дзесяткаў і сотак тысячаў сялян і работнікаў.

Дзеля гэтага ўношу папраўку: „Параграф 3-ці артыкулу 51 уставы аб парцэляцыі і асадніцтве вычырківаецца".

# Прамова дэпутата Мятлы.

Высокі Сойме!

Бяру слова да арт. 52-га так-званага „закону аб парцэляцыі і асадніцтве", а ў запраўднасьці—парцэляцыі дзеля калянізацыі (асадніцтва) этнаграфічна ня польскіх зямель.

Увесь гэты параграф, рэгулюючы чароднасьць кандыдатаў на новастворaныя зямельныя дзялянкі, зьмяшчае галоўную думку закону, зьяўляючыся панска-польскім сьцягам, на якім выразна напісаны словы: „іду на вас". Пад відам зямельнай рэформы—радыкальнай перамены зямельнага ладу—вы ствараеце сабе **„законнае права" дзеля адабраньня зямлі ў беларускага і украінскага селяніна,— дзеля эканамічнага зваяваньня сялянскіх масаў, дзеля аддачы цэлых беларускіх вёсак пад каманду вашых капралаў**, якія адначасна і тым самым будуць вартаўнікамі „ляяльнасьці" беларускага насяленьня на мясцох...

Але гэткае „права" можа быць толькі плодам разгуляўшайся хворай фантазіі заваявальнікаў, — разнузданых валадароў у падбітым Краі; гэткае „права" будзе правам польскага мяча...

Запраўды-ж, што кажа арт. 52? Ен кажа, што пры ўсякай парцэляцыі спасярод кандыдатаў у першую чаргу павінны быць узяты пад увагу: а) арэндары і служачыя парцэляваных маёнткаў, б) заслужоныя жаўнеры польскай арміі ці польскіх ахвотніцкіх часьцей, в) сем'і (ўдовы і сіроты), пакінутыя забітымі жаўнерамі польскай арміі ці польскіх ахвотніцкіх часьцей, г) скончыўшыя сельска-гаспадарчыя школы.

Вось—увесь зьмест гэтага артыкулу. А дзе-ж фальварчныя парабкі? А дзе-ж беззямельныя і малазямельныя сяляне? Ці-ж можна казаць аб зямельнай рэформе, — аб стварэньні для сялян варштатаў працы, калі законапраект прызнае зямлю толькі афіцыялістам, польскім жаўнерам, польскім інвалідам і польскім аграномам?!

Гэта-ж, панове, папросту зьдзек над зямельнай рэформай, зьдзек і глумленьне над мільёнамі народных масаў, працуючых на ральлі, — гэтай падставы, на якой стаіць гаспадарства,—на нэндзы і бядзе якое будуюць сабе палацы банды аб'яднаных між сабой эксплёататараў. Гэты закон мае мэтай якраз яшчэ павялічыць колькасьць гэтых эксплёататараў-шляхам стварэньня лепшых варункаў для былых жаўнераў, афіцыялістаў і аграномаў.

А дзе-ж трэба шукаць прычынаў гэткай вашай шчодрасьці, што вы самі згаджаецеся ў пэўнай меры падзяліцца заграбленымі маёнткамі — з пэўнай колькасьцяй падабраных паводле вашага смаку асобаў? Ці матывам гэтага зьяўляецца пачуцьцё патрэбы перамены зямельнай будовы Краю? Ці, можа, матывам гэтага закону ёсьць інстынкт самазахаваньня, скіраваны на павялічэньне лічбы эксплёататараў — дзеля падтрыманьня раўнавагі сілаў між мільёнамі працоўнага народу і жменяй валадаючай клясы?

Акраз адказ на гэтае пытаньне дае арт. 52., які навет забыўся зусім аб тым, што істнуюць сяляне—беззямельныя і малазямельныя!.. Пункты б) і в) гэтага артыкулу аддаюць зямлю заслужоным жаўнерам і сем'ям забітых жаўнераў польскай арміі.

Ня буду казаць аб тым, што паняцьце „заслужоны"—ня зусім точнае і можа даваць повад дзеля розных надужыцьцяў. Я-б хацеў толькі зьвярнуць увагу паноў паслоў на тых, якія з ведамых прычынаў не маглі быць у польскай арміі. Я буду казаць аб тых, якім вы, ясныя паны, у часе выбараў абяцалі зямлю і волю — нароўні з польскім насяленьнем... Буду казаць аб беларускім і ўкраінскім сялянстве,—аб так-званых „Усходніх Крэсах", дзе вашы агітатары, як з правіцы, так і з лявіцы, залівалі і заліваюць Край, туманючы галовы насяленьня абяцанкамі зямельнай рэформы, паляпшэньня быту селяніна, стварэньня для яго варштату працы...

У часе выбараў вам у пэўнай меры верылі, вам часам аддавалі галасы... Думалі, што вы ня будзеце лгаць... І вось цяпер—прыняўшы гэты закон, усе соймавыя партыі прынамся скінуць маску з твару і пакажуць гэты твар Юды—здрадніка, які за тыя ці іншыя „канцэсіі" **прадае ў рабства масы беларускага і ўкраінскага сялянства**.. Вы, паны, разьлічаеце на цемнату нашага народу, якую таксама сіліцеся ўтрымаць праз **недапушчэньне навукі ў матчынай мове**... Але гэта вам ужо ня ўдаецца! Жыцьцё і векавая нядоля — добрая школа. Наш народ ужо прайшоў гэтую школу і вельмі добра аглядзеўся ў сваім лёсе, — асабліва цяпер—пасьля 5 гадоў „польскай апекі"...

Апошняй лекцыяй, атрыманай ім ад вас, паны, і будзе гэты ваш закон аб зямлі; прыняўшы яго, вы паставіце беларускае і ўкраінскае сялянства перад „створаным фактам". Але-ж, калі прыдзе ізноў дзень выбараў, дык ці-ж вы думаеце, што ізноў патрапіце збаламуціць яго галовы?

Не кажу ўжо нічога аб дні наступным пасьля выбараў—аб дні заплаты за гэткую асаблівую апеку. Не, паны, я кажу, што жыцьцё нас вучыць... Праўда, ня многа гадоў знаходзімася мы „пад Польшчай", але ўжо атрымалі мы такую салідную школу, такі багаты дасьлед, што цэлыя вякі не затруць гэтых сьлядоў...

Стараньні вашы, як напрыклад партыі „Пяста", працаваць праз розных п. Цяўлоўскіх і іншых на полі сьведамага ашуканства нашага сялянства (гэткая праца ўжо распачата ў Баранавічах, у Дзісьне і ў інш. мясцовасьцях) не дадуць пажаданых вам рэзультатаў. Бо — там, на гэтых многа—пакутных „Крэсах", вы праз сваіх агентаў абяцуеце зямлю беларускаму сялянству, а тут прымаеце закон, каб адабраць у яго апошні кавалак хлеба. Дарма п. Вітас жаліцца, што за шмат зямлі ўжо трапіла ў рукі беларускага і ўкраінскага насяленьня.. **Наш працоўны народ нічога не атрымаў ад паноў, апрача няволі, біцьця і асадніцтва**. Усё, што вы, паны, выробляеце ў мэтах ашуканьня сялянства, прападзе дарма, хаця вы яшчэ маеце пустую надзею на яго „цемнату".

Але ўся гэтая праца, пазбаўленая шчырасьці і чэснасьці, можа аказацца вельмі няўдзячнай. Можна ашукаць раз, навет два разы... Гэтак можна, як той казаў, прайсьці ў адзін бок; але вярнуцца назад будзе ўжо вельмі цяжка...

Пасьля прамовы п. Вітаса ўсякія ілюзіі аб тым, што вы будзеце сумленна трактаваць справу зямельнай рэформы, адпадзе навет у тых, хто, рахуючы на сялянскія боты п. Вітаса, верыў у народныя лёзунгі іх уласьніка... У запраўднасьці-ж гэтыя боты побач з лякеркамі паноў Грабскіх груба йдуць на нашыя землі—**па нашу зямлю, каб аддаць яе ў рукі багацейшых польскіх сялян**, разьеўшыхся на бядзе навет сваіх бяднейшых землякоў, на іх цемнаце.

Сусьветная вайна найбольш закранула наш край. Такіх цяжкіх матэрыяльных варункаў, у якіх знаходзіцца беларускае насяленьне, у этнаграфічнай Польшчы няма. Палажэньне беззямельнага і малазямельнага насяленьня — тым горшае, што нашае насяленьне ня можа з ральлі ўцякаць у места—да асяродкаў прамысловасьці. Адзіныя гэткія вялікія асяродкі, якія маглі ў пэўнай меры забіраць з вёскі лішак работніцкіх рук, як Рыга, Петраград, Масква, — цяпер адрэзаны граніцай, праз якую легальна вельмі цяжка перайсьці. Усё гэтае змушае нашага селяніна з вялікай самаахвярнасьцяй трымацца свайго шматка зямлі, — бо гэта-ж адзіная, можна сказаць — апошняя надзея ў барацьбе з запраўдным голадам. **Зямля і лясы—нашае багацьце і нашае жыцьцё.—За іх мы будзем вясьці барацьбу да апошняй кроплі крыві**...

І вось цяпер вы сілкуецеся вырваць у нас гэтую зямлю...

Я-б хацеў спытацца ў вас, паны, якое права—гістарычнае ці маральнае — маеце вы на тое, каб вырваць ад нас тую зямлю, на якой спрадвеку лілі свой пот і сваю кроў нашыя айцы, дзяды і прадзеды? Няўжо ж гісторыя нямецкіх гакатыстаў для вас—дарма прапаўшая навука аб так званым „праве сілы" фізычнай?! Наш народ таксама ніколі не пагодзіцца з польскім асадніцтвам, —як і вы самі не пагадзіліся з нямецкай калянізацыяй вашых заходніх зямель.

Вельмі часта мы чуем пацёрты ўжо аргумэнт (довад), што польскі асаднік мае нясьці на ўсход польскую культуру, — культуру эўрапэйскую... Але-ж напэўна не падзякавалі-б вам навет вашы

